**КОСАЎСКІ ЗАМАК**
*зацікавіў краязнаўцаў з Эстоніі. А што беларусы?* 3

**ЯК ЖЫВЕШ, ВЯЛІКІ ГАЛІК?**
*Адзін дзень з жыцця неперспектыўнай вёскі* 6

**ТО ЛИ КАФЕ, ТО ЛИ ПАВИЛЬОН**
*Где и как отдыхают жители посёлка Телеханы* 8




# ГАЗЕТА ДЛЯ ВАС

ІВАЦЭВІЧЫ-БАРАНАВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ-ДРАГІЧЫН-КОБРЫН

выдаецца са студзеня 1997 года 19 — 25 ліпеня 2002 г. № 29 (344)


# ГЭТА НАША З ТАБОЙ БІЯГРАФІЯ

## Юбілей адзначыў горад Бяроза і яго жыхары

**У адным з дэкрэтаў Брэсцкага ваяводства 1763 года меўся запіс: "У 1477 годзе муж і жонка Гамшэяў у сваім спадчынным маёнтку, які мае назву Бяроза, касцёл і домік свяшчэнніка гэтага касцёла... даравалі і запісалі".**

Ці ведаў пісар, які ўпершыню зрабіў гэты запіс, што менавіта дата 1477, напісаная яго рукой, і будзе лічыцца пачаткам існавання Бярозы? Відаць, не. Але гэта ніякім чынам не адбілася на жаданні сучасных жыхароў горада адзначыць 525-годдзе свайго населенага пункта.

Свята пад назвай "Квітней, мой любы горад" адбылося ў нядзелю 14 ліпеня. Яно пачалося а дванаццатай гадзіне на плошчы Леніна, па якой пад аркестравую музыку прайшлі калоны ўдзельнікаў. Затым святочнае шэсце накіравалася па вуліцы Леніна на гарадскі стадыён, які надалей і стаў галоўнай пляцоўкай гэтага дня.

Урачыстасць адкрыў старшыня райвыканкама І.М. Малейцін, віншавальныя словы прагучалі і ад прадстаўнікоў суседніх раёнаў. Былі ўзнагароджаны самая пажылая жыхарка горада і бацькі немаўляці, якое нарадзілася напярэдадні. Затым перад трыбунамі парадным калонай прайшлі вайскоўцы.

Вялікі інтарэс у публікі выклікала тэатралізаванае прадстаўленне з удзелам Яна і Барбары Гамшэяў, заснавальніка бярозаўскага картузіянскага манастыра Казіміра Леона Сапегі, рыцараў "Блудэнскай харугвы", манахаў-картузаў. Пасля іх сыходу са сцэны пачаўся канцэрт, у якім узялі ўдзел лепшыя мастацкія калектывы горада і раёна, Дзяржаўны ансамбль танца "Харошкі", салісты Белтэлерадыё, калектыў з Украіны і інш.

У час святкавання бібліятэчныя работнікі наладзілі выставу-продаж друкаванай прадукцыі "Я слаўлю горад свой", а музей — выставу карцін мясцовых мастакоў.

**Мікалай СІНКЕВІЧ.**
**г. Бяроза.**










525

Імгненні гісторыі горада Бяроза.

## Конкурс "БЕЛАРУСЬ — НАША БАЦЬКАЎШЧЫНА-МАЦІ"

Бярозаўскія сябры грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" абвяшчаюць конкурс "Беларусь — наша Бацькаўшчына-маці" (вершы, невялікія апавяданні, малюнкі і г. д.), прысвечаны 120-годдзю са дня нараджэння Янкі Купалы. Свае творы можна дасылаць на адрас: **вул. Чырвонаармейская, д. 19, кв. 9, 225210, г. Бяроза, або на адрас рэдакцыі "Газеты для вас".**

Апошні тэрмін — 30 ліпеня г. г. Пераможцаў чакаюць прызы: кнігі і аўдыёкасеты беларускіх выканаўцаў. Лепшыя творы будуць апублікаваны на старонках "Газеты для вас".

ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Путин промолчал

**На днях Владимир Путин приехал в здание на Смоленской площади для того, чтобы разъяснить, в чем заключается сегодня внешнеполитическая концепция России.**

Россия по-прежнему, как это записано во всех документах, остается миролюбивым государством, которое намерено строить отношения на равноправной основе с любыми государствами. Самые видимые изменения произошли в отношениях России и США после событий 11 сентября. Владимир Путин подтвердил, что Россия и США будут сотрудничать не только в этой борьбе, но и по всему комплексу проблем. Говоря об отношениях с Евросоюзом, он сказал, что главные задачи — строительство единого экономического пространства и энергодиалог, а также переговоры по Калининградской области. Кроме этого, Владимир Путин говорил о странах СНГ. Здесь приоритетов два: ЕврАзЭС и Договор о коллективной безопасности. Владимир Путин ничего не сказал о Беларуси.

## Александр Чигирь — в Ивацевичской колонии

**Сын экс-премьера Беларуси Михаила Чигиря Александр будет отбывать наказание в колонии строгого режима в г. Ивацевичи Брестской области.**

Напомним, что Минский городской суд оставил без изменений приговор Александру Чигирю, приговоренному к 7-ми годам лишения свободы. Чигиря-младшего обвинили в угоне автомобилей с целью раскомплектации и продажи. Защита Чигиря не согласна с решением Минского городского суда и намерена обжаловать его во всех инстанциях, включая Верховный суд.

## Каждый пятый пенсионер работает

**В Беларуси, по данным на 1 июля нынешнего года, продолжает работать каждый пятый пенсионер.**

Многие из них заняты в сфере производства сельскохозяйственной продукции. В целом количество работающих пенсионеров в стране составляет 482 тысячи. Это объясняется, в первую очередь, небольшим размером получаемых пенсий. Кстати, минимальные пенсии, составляющие 44,8 тысячи рублей, получают более 67 тысяч работающих пенсионеров.

## Движение цен

**За первую половину 2002 года цены в Беларуси выросли на 20% — сообщил Минстат.**

Между тем, согласно прогнозам, инфляция за весь 2002 год должна составить 20-27%. Таким образом, "годовой план" выполнен в два раза быстрее. Для сравнения, в России и Казахстане за это же время цены повысились только на 0,5%.

## Новый профбосс

**16 июля завершился пленум Федерации профсоюзов белорусской (ФПБ).**

Более 200 делегатов дружно проголосовали за заместителя руководителя президентской администрации Леонида Козика, который откомандирован властями укреплять смычку Красного дома и профсоюзов. Против кандидатуры нового профбосса проголосовало всего шесть человек.

## Амнистированы почти 2 тысячи заключенных

**Александр Лукашенко 15 июля подписал Закон "Об амнистии некоторых категорий лиц, совершивших преступления".**

В результате амнистии около 1900 осужденных будет освобождено от дальнейшего отбывания наказания. Для почти 25000 осужденных срок наказания уменьшится на один год, а для 3000 осужденных — на треть. Реализация Закона сократит расходы государственных средств в сумме 1,6 миллиарда рублей.

## Минск посетила делегация Ирака

**В эти дни Минск в очередной раз посетила иракская делегация.**

В соответствии с планом работы Совместной Белорусско-Иракской комиссии по торгово-экономическому сотрудничеству в период с 14 по 20 июля 2002 года в Беларуси находится иракская делегация во главе с заместителем премьер-министра Республики Ирак Абдель Таввабом Муллой Хуэйшем. В состав иракской делегации также входят представители министерств промышленности, высшего образования и научных исследований Ирака.

**(Паводле паведамленняў інфармацыйных агенцтваў).**

# "ЗАЛА ПЛАКАЛА,

## калі выступала Івацэвіцкая маладзёжная студыя народнага тэатра"

**ІВАЦЭВІЧЫ. Гэтыя словы, вынесеныя ў загаловак, належаць Вользе Зяновіч, галоўнаму метадысту па тэатральнаму мастацтву грамадска-культурнага Цэнтра Брэсцкага аблвыканкама. Вольга Аляксандраўна, журы і публіка высока ацанілі работу Івацэвіцкай студыі народнага тэатра на фестывалі "Тэатральнае Палессе — 2002" у Брэсцкім тэатры драмы і музыкі.**



Аляксандр ГОРБАЧ.

Фрагмент рэпетыцыі.

Фестываль быў прысвечаны 120-годдзю з дня нараджэння нашых славутых песняроў — Янкі Купалы і Якуба Коласа. Нашы землякі прадставілі п'есу "Адплата кахання" па аднайменнаму твору Янкі Купалы.

"Гэта самая сцільная праца фестывалю, — расказала "Газеце для вас" Вольга Зяновіч. — Увесь наш Цэнтр дагэтуль пад уражаннем выступлення Івацэвіцкай студыі. Цудоўныя вобразы, пластыка... Зала плакала, калі выступала Івацэвіцкая маладзёжная студыя народнага тэатра. Узровень іх майстэрства заслугоўвае быць прадстаўленым на самым высокім узроўні. З другога боку, гэта і не дзіўна: такіх таленавітых і шчыра адданых сваёй працы рэжысёраў, як Валянціна Пятроўна Кулецкая, адзінкі."

Маладзёжная студыя была ўзнагароджана дыпломам "За лепшае сцэнічнае ўвасабленне твораў класікаў беларускай і сусветнай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа і актыўны ўдзел у абласным фестывалі аматарскага мастацтва "Тэатральнае Палессе — 2002".

**Аляксандр ГОРБАЧ.**

## Знойдзены снарад

**ПРУЖАНЫ.** На пачатку ліпеня ў двары жылога дома па вуліцы Купалы быў знойдзены 100-міліметровы артылерыйскі снарад савецкай вытворчасці, які ляжаў у зямлі з часоў Вялікай Айчыннай вайны.

Знайшоў яго адзін з жыхароў гэтай вуліцы. Сапёры Слонімскай механізаванай брыгады № 11 абясшкодзілі небяспечную знаходку. Гэта, дарэчы, чацвёрты падобны выклік у гэтым годзе, а ў мінулым годзе падобных знаходак было дзесяць.

**Крысціна КРУГЛЕВІЧ.**

## Медалёў меней,

### затое працэнт паступлення высокі

**БЯРОЗА.** Згодна інфармацыі раённага аддзела адукацыі, колькасць выпускнікоў-медалістаў у гэтым годзе знізілася ўдвая. Калі ў 2001 г. па раёну было 39 залатых і 40 сярэбраных медалёў, то ў 2002 г. залатых — 25, а сярэбраных усяго 8. Звязана гэта з тым, што сталі больш жорсткімі патрабаванні да кандыдатаў на золата і серабро. Дарэчы, працэнт паступлення ў ВУЗы бярозаўскіх медалістаў даволі высокі і складае 90%.

**Мікола СІНКЕВІЧ.**

## Згарэла зарплата рабочых птушкафабрыкі

**КОБРЫН. На мінулым [illegible]ні жыхароў Кобрыншчыны ўскалыхнула чарг[illegible] непрыемнае здарэнне. У адзін момант згарэла ас[illegible]тая "Аўдзі", а ў ёй зарплата рабочых мясцовай птушкафабрыкі.**

Але аб усім па парадку.

У гэты дзень дырэктара птушкафабрыкі "Кобрынская" на рабоце не было, ён быў у камандзіроўцы ў Магілёве. Яго замяняла Маргарыта Антонава — намеснік па гандлю. У той дзень в. а. касіра птушкафабрыкі Таццяна Барафанава паехала за грашыма ў "Белаграпрамбанк" на сваім аўто і без суправаджальніка.

Атрымаўшы там частку зарплаты рабочых, яна сустрэла свайго знаёмага і рашыла адвезці яго ў сяло Дзівін, што ў 30 км ад горада Кобрына. Вяртаючыся назад, спяшаючыся на працу, дзе яе з грашыма чакала чарга рабочых, яна перавысіла хуткасць на няроўнай дарозе.

Машыну развярнула, "замкнула" электраправодка — і ў секунду машына загарэлася. Гаспадыня з машыны выскачыла, а вось пра грошы забылася...

Цяпер ідуць разборкі, касірка ад атрыманага стрэсу злягла ў бальніцу. Мабыць, касір не ведала аб інструкцыі, дзе паведамляецца, як патрэбна атрымліваць грошы ў банку і як іх транспартаваць. Забыліся аб гэтым і ў Кобрынскім "Агрампрамбанку". На фабрыцы ж такая практыка існуе даўно: за грашыма тут ездзяць на ват на гарадскім аўтобусе.

**Ніна МАРЧУК.**

# РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

**Цэны на прадуктовых рынках нашага рэгіёну па стану на 17.07.2002 г. (у руб. за адзін кілаграм)**

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны | Драгічын | Кобрын |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Свініна | 3800—5800 | 3500—7000 | 3600—5800 | 3700—5500 | 3700—5500 | 3800—5800 |
| Сала салёнае | 4000—4500 | 3500—5000 | 3500—4500 | 3800—4500 | 3500—4500 | 3500—4500 |
| Алей (1 л) | 1700—2100 | 1500—2100 | 1800—2100 | 1700—2100 | 1700—2100 | 1700—2100 |
| Яйкі (1 дзяс.) | 1200 | 1200—1400 | 1000—1300 | 1200 | 1000—1300 | 1000—1200 |
| Малако (3 л) | 1000 | 1200—1300 | 1000 | 1000 | 1000 | 1200 |
| Тварог | 1200 | 1000—1200 | 1200 | 1200—1400 | 1200 | 1200 |
| Бульба (малад.) | 400—700 | 500—700 | 400—600 | 400—800 | 400—600 | 400—600 |
| Масла сметанк. | 4000 | 3500—4000 | 3500—4000 | 4000 | 3500—4000 | 3500—4000 |
| Вішня | 400—500 | 400—500 | 400—500 | 400—500 | 400—500 | 400—500 |
| Цыбуля | 900—1000 | 800—1000 | 1000 | 1000 | 1000 | 800—1000 |
| Агуркі | 200—300 | 250—350 | 200—300 | 200—300 | 200—300 | 200—300 |
| Морква | 500 | 500—700 | 500—600 | 500 | 500 | 500 |
| Памідоры | 800—1500 | 800—1500 | 800—1500 | 800—1500 | 800—1500 | 800—1500 |
| Селядцы | 2200—2400 | 2000—2300 | 2300—2500 | 2500 | 2300—2500 | 2300—2500 |
| Кавун | 1000 | 900—1100 | 1000 | 1000 | 1000 | 1000 |
| Грэцкія арэхі | 2600 | 2600 | 2000—2600 | 2000—2600 | 2000—2600 | 2000—2600 |
| Яблыкі | 300—400 | 400—500 | 400—500 | 300—400 | 300—400 | 300—500 |
| Капуста | 200—400 | 250—450 | 200—400 | 200—400 | 200—400 | 200—400 |
| Вінаград | 4500—5500 | 4500—5500 | 4500—5500 | 4500—5000 | 4500—5000 | 4500—5500 |
| Чарніцы | 800—900 | 800—1000 | 700—900 | 800—900 | 800—900 | 800—900 |
| Перац (салод.) | 1400 | 1300—1500 | 1000—1500 | 1300 | 1000—1500 | 1300 |
| Лімоны | 1900—2200 | 2000—2200 | 2000—2200 | 2000—2200 | 2000—2200 | 2000—2200 |
| Апельсіны | 1700—1800 | 1500—1700 | 1500—1900 | 1600—1900 | 1600—2000 | 1600—2000 |
| Бананы | 1500—1600 | 1300—1600 | 1500—1600 | 1500—1600 | 1500—1600 | 1500—1600 |
| Грэчка | 600 | 540—600 | 550—600 | 550—600 | 550—600 | 550—600 |
| Макар. вырабы | 580—600 | 580—600 | 580—600 | 580—600 | 580—600 | 580—600 |
| Рыс | 700—720 | 700—720 | 700—720 | 700—720 | 700—720 | 700—720 |
| Манныя крупы | 650 | 650 | 650 | 650 | 650 | 650 |
| Проса | 480 | 400—480 | 400—480 | 480 | 400—480 | 480 |
| Цукар | 780 | 780 | 780 | 780 | 780 | 780 |
| Мёд | 6000—7000 | 6500—8000 | 6500—7000 | 6500—7000 | 6500—7000 | 6500—7000 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 1830 | 1850 | 1830 | 1850 | 1830 | 1850 | 1830 | 1850 | 1830 | 1850 | 1830 | 1850 |
| 1 еўра | 1830 | 1865 | 1830 | 1865 | 1830 | 1865 | 1830 | 1865 | 1830 | 1865 | 1830 | 1865 |
| 1 рубель Расіі | 57 | 58 | 57 | 58 | 57 | 58 | 57 | 58 | 57 | 58 | 57 | 58 |

# КОСАЎСКІ ЗАМАК

## зацікавіў эстонскіх краязнаўцаў

**Зусім нядаўна краязнаўцы з Эстоніі наведалі Косаўскі замак — і былі шакіраваны тым, у якім стане знаходзіцца гэтая жамчужына архітэктуры Беларусі. З мэтай прыцягнуць увагу сусветнага грамадства да праблемы захавання гэтага ўнікальнага помніка, эстонскія краязнаўцы нават стварылі спецыяльны сайт у Інтэрнэце, які прысвечаны Косава. Усе расходы па стварэнні, рэгістрацыі і далейшай падтрымцы праекта эстонцы ўзялі на сябе.**

**Дзякуй Богу, хоць хтосьці паспрабуе захаваць для беларусаў іх гістарычныя каштоўнасці.**


Косаўскі замак.
Так ён выглядаў у далёкім 1927 годзе.

Між тым, зразумела, эстонцам у гэтай гісторыі амаль нічога не "свеціць". Паводле пастановы ўрада, толькі беларускія дзяржаўныя ўстановы могуць займацца гістарычнымі помнікамі. Эстонцы пакуль б'юцца над тым, каб гэты гістарычны помнік быў занесены ў краязнаўчы рэестр ЮНЕСКА.

Нагадаем, што ў 1996 годзе быў знойдзены інвестар — мінскае вытворчае прадпрыемства "Саюзтэхсервіс", якi даў гарантыю на тое, што адбудзецца поўнае аднаўленне дварца. Прайшло шэсць гадоў, а воз, як кажуць, усё там жа. Не ўсё ў праекце Сауміна задавальняе "Саюзтэхсервіс", ёсць і супрацьлеглыя праблемы. Дарэчы, астанкі Косаўскага дварца ацэнены у 7 мільярдаў 486 мільёнаў 28 тысяч рублёў (па стану на 1-е чэрвеня 2002 года).

Тым часам Косаўскі палац усё больш і больш разбураецца, выклікаючы натуральнае абурэнне не толькі эстонцаў, а ўсіх людзей цвярозага розуму.

Аляксандр МІХАЛЕНКА.
г. Івацэвічы.

# Дети хотят кушать сегодня,

## а не завтра

**"Уважаемая редакция "Газеты для вас"! Пишет вам жительница деревни Козики, моя фамилия Басалай. Я и другие жители работаем в местном совхозе "Победа". Нам с апреля месяца не платят заработную плату, всё время "кормят" нас "завтраками". Мол, подождите еще денёк-второй. И вот уже ждем четвертый месяц. Наше начальство говорит, что виновато высшее руководство, а не они, мол, они то и не дают деньги. Но те же начальники, думаю, уже получили зарплату и за май, и за июнь. А нам все обещают. Но ведь наши дети хотят кушать сегодня, а не завтра. Сколько нам еще ждать? Может, вы поможете ответить на этот вопрос"?**

**ОТ РЕДАКЦИИ.** Чтобы ответить на этот вопрос, довелось позвонить в совхоз "Победа". Компетентные работники хозяйства ответили, что такая задолженность действительно существует. Это случилось по той причине, что в кассе совхоза нет денег, она пустая. В свою очередь хозяйству за сданную продукцию должны деньги Ивацевичский молокозавод, Березовский мясокомбинат. Когда они расплатятся, неизвестно. Но от этого труженикам хозяйства ни холодно ни жарко. Правду пишет работница, что детей кормить надо ежедневно, а не время от времени. Может, голос рабочего человека, наконец, услышат те, кому по должности надо заботиться о сельских тружениках?

Подготовил Святослав КОЖЕДУБ.
г. Ивацевичи.

# "Тэхналагічную" скасавалі,

## але службовых машын не паменшала

**Яшчэ нядаўна на нашых вуліцах і дарогах імчаліся машыны з надпісамі "Тэхналагічная". З пачатку гэтага года такую назву скасавалі, але паявіліся шматлікія іншыя назвы: "Дорнадзор", "Госзнак", "Гостехнадзор", "Охрана труда", "Безопасность движения" і г. д.**

У нашым рэгіёне налічваецца звыш паўтары тысячы легкавых службовых аўтамабіляў. Дзяржкантролем устаноўлена, што прабег кожнай машыны летась склаў у сярэднім 23 тысячы кіламетраў, а ўсяго каля 35 мільёнаў кіламетраў. Не цяжка падлічыць, што імі зрасходавана толькі гаручага каля трох тысяч тон. Уявіце сабе, што гэтая колькасць гаручага паступіла б адразу на пасяўную збожжавых ці ўборку ў нашы калгасы ці саўгасы. Думаецца, што з-за гаручага прастояў тэхнікі не было б.

Кастусь ДЗЯМЧУК.
г. Івацэвічы.

# РТМО расширяется

## Ему переданы здания промышленно-торговой фирмы "Ручайкі" и его профилактория

**На одной из пресс-конференций председатель Кобринского райисполкома Константин Синевич сообщил о том, что местному РТМО передается административное здание ПТФ "Ручайкі" и санатория-профилактория под поликлинику.**

За более подробной информацией я обратилась к главному врачу РТМО Вячеславу **КРИВЕЦКОМУ**:

— Кобринская райбольница и поликлиника построены в 1974 году, по проекту послевоенного времени. ЦРБ рассчитана на 230 коек, сейчас их — 365. Поликлиника рассчитана на 500 посещений в смену, а сейчас их больше 1000.

Вопрос скорейшего расширения площади больницы инициирован новым председателем Кобринского РИК Константином Синевичем. Предполагается в счет погашения долга ПТФ его санаторий-профилакторий "Ручайкі" передать местному РТМО для расширения площади больницы.

Нина МАРЧУК.
г. Кобрин.

# Камень на дороге

**"Здравствуйте, дорогая "Газета для вас". Звоню вам из г. Ивацевичи, улица Шевченко, дом 8. Проблема моя (и, думаю, не только моя) в следующем: жильцы шестого подъезда (последнего от улицы Шевченко) на проезжей части, около придомовой территории, для того, чтобы по двору не ездили машины, выкатывают, выносят, бросают огромные камни.**

**Проехать — невозможно. Причина таких действий мне известна, хоть и не совсем понятна: дело в том, что через двор ездят все, кому не лень, сокращая путь между улицами Шевченко и Чкалова.**

**Но вот что делать мне? Я живу в четвертом подъезде; проехать вперед невозможно, для меня — водителя, не имеющего достаточного опыта, — проблема задним ходом выехать на Чкалова. Я уже дважды срывала глушитель, ремонт стоит, сами понимаете, денег, и как дальше заезжать-выезжать я не знаю.**

**Антонина Владимировна К.**
**г. Ивацевичи, ул. Шевченко, д. 8".**

Ситуацию комментирует **Петр Петрович ГРУШИК, главный инженер КУМПП ЖКХ "Ивацевичи ремжилстрой"**:

— Камни мы эти уберем, раз такое дело. Этого не должно быть. Но мне понятны чувства и жильцов дома: там гуляют дети, они сами отдыхают на лавочках, и проносящийся по двору посторонний автотранспорт раздражает, пугает... С другой стороны, то решение проблемы, которое избрали жильцы, не самое лучшее, это чистое самовольство, их собственность — квартиры, вот туда пусть они камни и таскают.

Конечно же, если бы работники ГАИ, с которыми мы пытаемся сотрудничать, установили запрещающий знак — "кирпич", то ситуация поменялась бы...

Подготовил Александр МИХАЛЕНКО.
г. Ивацевичи.

# Хоть дома остались целы

**Утро 15 июля потрясло жителей микрорайона ПМК-60: горел дощатый сарай, погреба жильцов многоквартирного дома.**

Как нарочно, в то время телефонная связь не работала. Пока в пожарную часть поступило сообщение о случившемся, было упущено немало времени. На место пожара первой выехала машина Телеханского подразделения, затем подтянулись машины Гортольского, Обровского, Логишинского и Ивацевичского подразделений.

Пожарные сработали быстро: если в 3 часа 15 минут они приняли сообщение, то в 4 часа 2 минуты пожар был локализован. Нелегко пришлось людям в касках бороться с огнем. Пожар сопровождался взрывами: взлетали на воздух канистры с горюче-смазочным материалом.

Пожарным удалось отбить от огня двухэтажный и соседний одноэтажный дом по ул. Механизаторов, но, к сожалению, пострадали хозяйственный сарай, погреба жильцов 4-квартирного дома.

Есть пострадавшие среди людей. В Ивацевичскую больницу с ожогами I степени был доставлен Сергей Кот, 1984 г. р.

Особую благодарность команда пожарных и жильцы дома выражают Сергею Струневскому и Андрею Сацуту за мужественные действия и активную помощь, а также другим людям, не оставшимся в стороне.

Юлия СТЭМП.
г. п. Телеханы.

# Как и где вы "прожигаете" это знойное лето?

## Отвечают жители города Берёза



**АЛЕКСАНДР:** Я недавно вернулся из армии, пытаюсь обосноваться, найти работу. Но не забываю и о праздниках. Отдыхаю только в д. Споровo — рыбалка, природа, девочки.



**КАТЯ:** Купаюсь в своем пруду во дворе, ловлю сачком рыбу, "загораю" на вишневом дереве, хожу за черникой в лес. Гуляю в городском парке. А ещё думаю съездить на юг!



**ВЛАДИМИР МИХАЙЛОВИЧ:** Мне не повезло. Отпуск "сорвался", поэтому "прожигаю" лето на работе. А еще по выходным — рыбалка, общение с друзьями, участие в мероприятиях оппозиции.



**ЛЮДА:** У нас в городе досуга никакого, поэтому единственный выход — "прожечь" лето на работе. Иногда выезжаю на озеро, хожу с удочкой на рыбалку. В выходные — с любимым парнем.



**ВАЛЕНТИНА:** "Прожигаю" вместе с детьми. Мы уже съездили в Питер, а дома — ходим в парк, загораем, купаемся, едим мороженое, фотографируемся, кроме этого футбол, рыбалка, кафе.



**МАКСИМ и ТАНЯ:** "Отрываемся" по полной. Вечеринки и тусовки на квартирах: пьем "фанту", прыгаем под хард-хор, танцуем брейк, гуляем по городу. Собираемся на Черное море.

В народ ходил Николай СИНКЕВИЧ (фото).

# ГЛАДКО БЫЛО НА БУМАГЕ,

## да забыли про овраги

**В 1993 году в одном серьёзном учреждении, где автор сих строк работал, довелось заспорить с коллегой, упрямо твердившему, что уже следующую зарплату мы получим в российских рублях, что-де уже прибыл в Минск вагон с российскими деньгами.**

**Надо, мол, только автокар подогнать.**

**Как нетрудно догадаться, бутылку крепкого напитка коллега проиграл (её мы на месте "приговорили"), ибо околоинтеграционная риторика Вячеслава Кебича работала на рейтинг, а не на результат.**




Когда о политике говорят, что он-де популист, то подразумевается именно его способность многие лета плясать на одной и той же фразе. Девять (!) лет прошло с того времени, как мы "заглянули" с коллегой в бутылочку, околоинтеграционная трескотня перешла на более высокий (порой переходящий в визг) тон.

А воз и ныне там.

И как не удивиться, не поразиться: это ж сколько времени можно говорить об "эпохальности" и "судьбоносности" встреч белорусского руководства с российским! Есть ли ещё более наглядный пример чистейшего популизма, голой "болботни", трескотни да свистопляски. Если бы политика была не тёмное и грязное дело, а на хозрасчёте, так сказать, как любое иное любящее точность занятие, то главные фигуры этой "бодяги" уже были бы уволены за халатность, бездействие. Целое десятилетие одни "ездили по ушам", другие, как китайские болванчики, головой кивали. Обнимались, целовались, потом через десять лет разговор пошёл о мухах и котлетах.

Здрасте вам, называется.

•

Теперь, стоило только президенту России обмолвиться на предмет того, что тот союз, который в голове у одного околоинтеграционного деятеля, не совсем понятен российскому руководству, многое поменялось. Обычно охотно любящий "проехаться" по этой теме президент Беларуси на день Независимости и не обмолвился о взаимоотношениях с Россией, хотя раньше, казалось что "... эту песню не задушишь, не убьёшь". С этого начиналась любая "сказка о приоритетах", этим и заканчивалась. Как любое новогоднее поздравление последних лет обязательно вмещает в себя "Дорогие жэнщыны".

Теперь — молчок.

Но эта тема пришлась по вкусу политологам России и Беларуси; о ней судачат все, кому не лень, и читатель, который неравнодушен к этой теме, уже мог наслушаться самых разных толкований.

Но одна мысль, кажется, не прозвучала.

Союз России и Беларуси, хоть и называли его многие политологи равноправным, не может быть равноправным по определению. Президенту Беларуси следовало быть более дальновидным, если он действительно переживает за независимость своей страны и не желает быть 90-м субъектом Российской федерации. Если Литва, Латвия, Эстония собрались дружбою водиться, то их желание натурально и естественно. Как Молдавия и Румыния, Азербайджан и Турция. Все эти страны схожи по менталитету, экономической модели, геополитических притязаниях. По территории, в конце концов.

А что мы видим в нашем случае?

Россия — мощная ядерная сверхдержава, геополитический колосс. И, как подобные себе, самодостаточна в своём одиночестве. В любом союзе эта страна будет козырным тузом, все прочие — шестёрки. Это — судьба многих гипердержав. Ни Россия, ни Китай, ни США никогда не допустят, чтобы их судьба решалась в Беларуси, Камбодже или Гондурасе. Это ясно как белый день. Беларуси же в любом случае грозит стать захолустьем, российским придатком, а не равнозначным партнёром.

Неужели этого никто не видит?

Точно так дружба Моськи и Слона, действительно, может умилять и удивлять многих. "Совсем без драки, могу попасть в большие забияки, пусть говорят потом собаки", — так смеялся дедушка Крылов.

Если бы не один момент. Прогулки со Слоном для Моськи гораздо более опасны, чем, к примеру, с Полканом. Если, не дай Бог, Слон оступится, то от Моськи останется мокрое место. И не больше.

Разве Моське больше не с кем дружить?

**Александр МИХАЛЕНКО.**
**г. Ивацевичи.**

# Не вместе, а вместо,

## или Кому надо такое ОНТ?

**Даже мне, простому человеку, понятна абсурдность создания так называемого ОНТ. Здесь я вижу несколько причин.**

Во-первых, ищется замена бездарному БТ, которое, по существу, никто не смотрит. Рейтинг его очень низок. Там такой примитив, что дальше некуда. Смотришь и удивляешься: неужели нет в коллективе телевизионщиков, думающих и работающих по-новому? Оказывается, пока, к сожалению, нет. Это, по-моему, основное, что заставило руководство искать выход из создавшегося положения.

Самое интересное то, что выход совсем не искали. Пошли, так сказать, по пути наименьшей трудности, а именно — влезли (другого слова здесь не подберу) на чужой телеканал другой страны, пусть даже и будущей союзной. Это — во-вторых.

А в-третьих, это — желание примазаться к популярности одного из лучших российских телеканалов. По истечении некоторого времени уже видно, как это делается. Обычно белорусские вести ставятся после российских. Причём, в программе "Время" вырезаются и спорт, и погода. Передачи, следующие после программы "Время", естественно, передвигаются, и тем, кто регулярно смотрит первый канал, создаются сплошные неудобства. Например, в прошедшее воскресенье популярная программа "Времена" началась только в 23 часа 10 минут по белорусскому времени. А до этого шёл американский боевик. Между прочим, "Времена" не однажды критиковали белорусские власти и их президента.

Не зря говорят, чем дальше в лес, тем больше дров. Так и здесь. Влезши в чужую программу, белорусские "создатели" тут же переименовали её — с ОРТ на ОНТ. Звучит это подозрительно, если не хуже. ОНТ — это, как будто, общенациональное телевидение. Сразу же возникает вопрос: "А что здесь национального (имеется ввиду белорусского), на этом ОНТ? А ничего, кроме новостей на русском языке. Словом, белорусские телевизионщики не изобрели ни капли нового и в то же время исковеркали программу ОРТ. Как говорят в народе, со своим уставом влезли в чужой огород.

Здесь же возникает аналогия с падающей стремительно вниз белорусской экономикой. Сперва винили в этом перестройку, потом развал Советского Союза, и, наконец, демократов во главе с Шушкевичем. Оказывается, все проще — идёт оно от собственного бессилия, неумения или, точнее, неспособности организовывать то или другое дело. В этом меня убедили годы президентского правления в Беларуси.

**Николай ДМИТРУК.**
**г. Ивацевичи.**

# Дэмаграфічныя праблемы

## парушаюць прывычны лад вясковага жыцця

Гэта не галаслоўнае сцвярджэнне. Колькасць сельскага насельніцтва штогод імкліва змяншаецца. І старых, і дзяцей. Неспрыяльнае дэмаграфічнае становішча прымусіла кіраўніцтва раёна прыняць зусім непапулярнае рашэнне аб закрыцці некалькіх сельскіх школ, у якіх займалася не больш дзесяці вучняў. Як сказаў начальнік аддзела адукацыі Бярозаўскага райвыканкама А. С. Курыловіч, ужо ліквідаваны Лукамерская, Старапескаўская, Леашкоўская і Лазоўская пачатковыя школы. А Высокаўская СШ ужо рэарганізавана ў базавую школу.

**Алесь САШЫН.**
**г. Бяроза.**

# Беларусь запрасіла

## НАТА правесці на яе тэрыторыі вучэнні

**"Пазіцыя Беларусі па НАТА была і застаецца арыентаванай на ўзаемнае і прагматычнае супрацоўніцтва", — заявіў у інтэрв'ю Беларускаму тэлебачанню пастаянны прадстаўнік Беларусі пры НАТА Сяргей Мартынаў.**

Паводле слоў С.Мартынава, у 2002 годзе "беларускія надзвычайныя сілы" будуць браць удзел у вучэннях НАТА ў Багародску (Расія), падчас якіх будзе адбывацца адпрацоўка дзеянняў па абароне грамадзянскага насельніцтва. Аналагічныя вучэнні ў 2000 годзе прайшлі на тэрыторыі Украіны, у якіх Беларусь упершыню ўзяла ўдзел і была прадстаўлена самым вялікім падраздзяленнем удзельнікаў (апрача прымаючага боку). Больш за тое, паведаміў С.Мартынаў, сёлета Беларусь упершыню запрасіла НАТА правесці на яе тэрыторыі ў 2004 годзе вучэнні па адпрацоўцы сумесных дзеянняў ва ўмовах радыялагічнай пагрозы.

"Усё гэта, — заявіў С. Мартынаў, — сведчыць аб тым, што мы паслядоўна нарошчваем узаемадзеянне і супрацоўніцтва з НАТА. Мы застаемся прыхільнікамі таго пункта гледжання, што пашырэнне любых ваенных саюзаў, уключаючы і НАТА, само па сабе не вырашае ніякіх праблем бяспекі. Мы не вітаем гэтае пашырэнне. Але факт гэтага пашырэння ўжо ў наяўнасці. Мы не хацелі б, каб раздзяляльная паласа прайшла па Беларусі або вакол Беларусі. З гэтай нагоды мы выступаем за тое, каб мяжа паміж Беларуссю і НАТА была мяжой не супрацьстаяння і канфрантацыі, а мяжой добрасуседскага супрацоўніцтва, стварэння зоны міру, пасяру міру".

**"Народная воля".**

# Лебедько клевещет на Лукашенко?

## Председателю Объединенной гражданской партии Анатолию Лебедько "светит" до пяти лет лишения свободы

**На днях Анатолию Владимировичу вручили постановление о признании его подозреваемым по уголовному делу, возбужденному по факту опубликования в "Народной воле" статьи Миколы Бусела "Бандиты финансируют белорусский режим?".**

В статье идет речь о том, что "ЦРУ обвиняет белорусский "Красный дом" в продаже оружия террористическим организациям". В материале указаны слова Лебедько, который говорит, что якобы весь белорусский оружейный бизнес находится под личным контролем А.Лукашенко.

"...В указанной статье приводятся слова председателя Объединенной гражданской партии Лебедько Анатолия Владимировича, содержащие заведомо ложные, позорящие президента Республики Беларусь сведения, — написано в постановлении. — Принимая во внимание, что по делу собраны достаточные доказательства, дающие основания подозревать Лебедько Анатолия Владимировича в совершении указанного преступления, руководствуясь статьями 40, 107 УПК Республики Беларусь, постановил признать Лебедько по настоящему уголовному делу подозреваемым в совершении преступления, предусмотренного статьей 367 часть 1 УК РБ" (клевета в отношении президента).

— Теперь в отношении меня возбуждено уголовное дело, — говорит Лебедько. — Примечательно, что позавчера закончилась сессия Парламентской Ассамблеи, где была принята резолюция по Беларуси и впервые с тревогой упоминалось о том, что Беларусь снабжает смертоносной военной техникой террористов и страны, предоставляющие террористам убежище... А сегодня меня назначили подозреваемым...

— Что собираюсь делать? Работать дальше. Дело в том, что для ОГП и для меня лично есть несколько приоритетных тем. Во-первых, экономические инициативы и реформы в сфере экономики. Во-вторых, судьбы похищенных известных людей. В-третьих, теневой бюджет, одним из возможных источников пополнения которого может являться продажа оружия.

Еще раз повторяю: мы поднимаем крайне неприятные для власти темы: теневой бюджет и пропавшие. Власть заинтересована, чтобы по этим вопросам была полнейшая тишина, как на кладбище. Но тишины не будет.

**"Народная воля".**

# ВАШЫ ПРАВЫ АБАРОНІЦЬ "ВЯСНА"

**Днямі Бярозу наведаў кіраўнік рэспубліканскай арганізацыі Праваабарончы Цэнтр "Вясна-96" Алесь Бяляцкі. Спадар Алесь адказаў на пытанні нашага карэспандэнта.**

**— Алесь, наколькі сёння запатрабаваны Праваабарончы Цэнтр "Вясна-96" Беларусі?**

— Усё залежыць ад актыўнасці сяброў "Вясны" і ад актыўнасці нашых аддзяленняў. У нас на сённяшні дзень па ўсёй краіне 19 аддзяленняў, яны знаходзяцца ў самых буйных гарадах. Як актыўна працуюць у іх людзі, настолькі яны вядомы ў сваіх гарадах, настолькі часта людзі звяртаюцца да іх са сваімі праблемамі. Увогуле, у нашым грамадстве ёсць патрэба, каб правамі чалавека займаліся не толькі афіцыйныя органы. На жаль, мы не можам казаць, што на сённяшні дзень суды ў нашай краіне з'яўляюцца аб'ектыўнымі і незалежнымі. На жаль, мы не можам казаць, што наша адвакатура працуе цалкам незалежна ад іншых галінаў улады. Тое ж самае тычыцца і пракуратуры, і міліцыі. І гэтыя моманты пакідаюць вялікую нішу для грамадскіх праваабарончых арганізацый, якія вельмі часта з'яўляюцца апошняй інстанцыяй, куды чалавек звяртаецца са сваімі праблемамі. І гэтыя праблемы бываюць вельмі разнастайнымі. Скажам, у Мінску ці абласных гарадах мы дастаткова часта займаемся нейкімі палітычнымі справамі. Калі людзі ўдзельнічаюць у пікетах, дэманстрацыях, іх затрымліваюць, збіваюць, затым даюць штрафы, узбуджаюць крымінальныя справы. Мы дапамагаем такім людзям знайсці кваліфікаваную юрыдычную дапамогу, а тым, хто сядзіць у турмах, мы перадаем ежу (умовы ўтрымання ў нашых турмах далёкія ад нармальных). Што тычыцца больш малых градоў, дзе няма такой выразна прыкметнай палітычнай актыўнасці, аддзяленні "Вясны" займаюцца бытавымі, сацыяльнымі праблемамі. Ці, скажам, у выпадках, калі чалавек уступае ў нейкую спрэчку з уладай, суд часта вырашае такія справы не на карысць праўды, а на карысць улады. І ў гэтых гарадах аддзяленні "Вясны" карыстаюцца даволі вялікай папулярнасцю. Таму што людзі ведаюць — сюды заўсёды можна прыйсці, заўсёды можна атрымаць бясплатную дапамогу. Дапамога, згодна статута нашай арганізацыі, можа быць выражана ў розных формах. Акрамя таго, у нас ёсць інфармацыйная праграма, мы выдаем свой бюлетэнь "Права на волю", дзе распаўсюджваем інфармацыю аб парушэннях правоў чалавека ў Беларусі і стараемся праз гэты бюлетэнь уплываць на наша грамадства.

**— Значыць, да вас можа звяртацца нават вясковая жанчына, у якой, дапусцім, укралі веласіпед, а дзяржаўныя органы адмаўляюцца праводзіць расследаванне?..**

— Абсалютна. У нас шмат такіх справаў, што датычацца суадносін людзей, органаў міліцыі і нейкіх іншых органаў, што парушылі правы грамадзян.

**— У чым выражаецца ваша канкрэтная дапамога чалавеку?**

— Мы раім, што трэба рабіць у кожным выпадку: куды звярнуцца і г.д.

**— Найбольш гучныя справы за апошні час, у якіх "засвяціўся" Цэнтр "Вясна"?**

— Можа быць, справа закрыцця газеты "Пагоня", аказанне пэўнай дапамогі журналістам гэтай газеты. Мы прымалі адпаведныя заявы ад імя свайго Цэнтра, мы звярталіся і ў абласны суд, і ў пракуратуру, і ў Вярхоўны суд, і ў Савет Міністраў з запатрабаваннямі аб'ектыўна разглядзець гэтую справу. Звярталіся ў міжнародныя праваабарончыя арганізацыі, якія, у сваю чаргу, звярталіся да нашых уладаў і суда з патрабаваннем перастаць пераследаваць журналістаў гэтай газеты. Можна сказаць, што мы ўдзельнічалі ў абароне газеты "Пагоня". Ну і нейкія бягучыя справы. У нас кожны месяц адбываецца дзесяткі адміністратыўных, грамадзянскіх справаў.

**— Наколькі эфектыўная ваша праца?**

— Яна дастаткова эфектыўная. Сотні справаў за год людзі выйграюць пры дапамозе нашага Цэнтра. Прадстаўнікі "Вясны" з'яўляюцца зараз у судзе прадстаўніком аднаго з палітычных зняволеных Аляксея Шыдлоўскага, якога зняважыла газета "Советская Белоруссия". Яе рэдактар Павел Якубовіч надрукаваў на А. Шыдлоўскага паклёпніцкую інфармацыю, і прадстаўнікі "Вясны" з'яўляюцца грамадскімі абаронцамі ў гэтай справе.

**— Якія стасункі ў "Вясны" з органамі ўлады?**

— Я б сказаў, дзелавыя. Таму, што, хоць гэтыя органы з'яўляюцца нейкай прыладай для выкананння вельмі часта несправядлівых дзеянняў у адносінах да грамадскіх дзеячоў, палітычных актывістаў, прадстаўнікоў прафсаюзаў, партый і г.д., мы часта бачым, што людзі, якія там працуюць, робяць гэта праз сілу. Яны часта кажуць, што іх прымушаюць, і пад страхам страціць працу яны вымушаны рабіць дзеянні, якія парушаюць правы чалавека. Але ў той жа час яны дастаткова паважліва ставяцца да нас і да нашай працы. Я не магу прывесці ніводнага выпадку абразлівага стаўлення да нашых прадстаўнікоў у судзе.

**— Такім чынам, вашыя адносіны можна ахарактарызаваць як узаемапаразуменне?**

— Я так і сказаў бы. Мы таксама не ставім перад сабой задачу зняважыць нейкім чынам міліцыю ці пракуратуру. Наша справа — паказаць слабае месцы іх працы дзеля таго, каб гэтыя месцы былі выпраўлены на карысць усяго грамадства.

**— Ці можна сказаць, што прыярытэт для вас — нейкія палітычныя справы?**

— Я б так не сказаў. Палітычныя справы стаяць у нас як адны з прыярытэтных накірункаў, але ў той жа час па колькасці справаў, у якіх мы ўдзельнічаем, яны не з'яўляюцца значна пераважнымі. Проста нейкая частка ад агульных справаў.

**— У "Вясне" працуюць прафесійныя юрысты?**

— Не, мы — грамадская арганізацыя, і ўся наша работа робіцца добраахвотна. У нас ёсць людзі з юрыдычнай адукацыяй. Хаця ёсць журналісты, выкладчыкі, студэнты. Усяго ў нас каля 300 чалавек.

**— Якія перспектывы працы на год-два ўперад?**

— Мы будзем удзельнічаць у назіранні пад час выбараў у мясцовыя саветы, таму што права аб'ектыўных і справядлівых выбараў — гэта неад'емнае права грамадзян Беларусі. Для нас гэта будзе прыярытэтная справа з канца гэтага года да вясны наступнага. Мы зробім даклад, які будзе перакладзены на іншыя мовы, каб не толькі наша, але і сусветная грамадскасць азнаёмілася, наколькі дэмакратычна і справядліва праходзілі выбары ў мясцовыя саветы. Безумоўна, наша задача пашыраць суполкі. Мы шукаем актыўных людзей, мы хочам, каб яны працавалі на карысць свайго грамадства, таму што своеасаблівасць працы Праваабарончага Цэнтра — гэта адкрытасць. Мы працуем для свайго грамадства.

**— Як Вы можаце ахарактарызаваць сучасны стан правоў чалавека ў Беларусі?**

— Вельмі кепскі. Тут наша думка супадае з ацэнкай усіх праваабарончых арганізацый, што працуюць у Беларусі. На жаль, правы чалавека ў нас парушаюцца сістэмна, па ўсіх накірунках, нават тыя, якія замацаваны Канстытуцыяй — права на свабоду слова, права на правядзенне сходаў, права свабодна выказваць думкі, права на прафесію, на прафсаюзныя арганізацыі і г.д. Яны зараз у нас скрозь парушаюцца. Гэта прызнаем не толькі мы, але і вельмі ўплывовыя міжнародныя праваабарончыя арганізацыі, якія робяць свой маніторынг па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі. Апошнім часам можна з упэўненасцю сказаць, што сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі — самая горшая з усіх еўрапейскіх краін. Мы стаім нават пасля такіх краін, як Албанія, Арменія, Грузія. У нас ёсць цудоўныя прыклады — Польшча, Літва, Чэхія — там чалавека паважаюць як асобу і гэта вельмі важна. Каб развівалася нармальнае дэмакратычнае і багатае грамадства, не павінны парушацца правы чалавека.

**— А з чым звязаны такі дрэнны стан правоў чалавека ў нашай краіне?**

— Безумоўна, з тым, што людзі, якія знаходзяцца пры ўладзе, прыкладаюць вялікія намаганні, каб утрымаць гэтую самую ўладу.

**— Ёсць даволі трапная дылема: "Што з'явілася першым: рабаўладальнік ці раб?" Можа падацца дзіўным, але спачатку з'яўляецца раб...**

— У нашым выпадку трэба разумець, колькі гадоў мы знаходзіліся ў Савецкім Саюзе, дзе ўсялякія размовы пра правы чалавека былі абсалютна бессэнсоўныя, таму што там была свая жорсткая сістэма. Гэта цяжкая спадчына выхавання, якая засталася ў нас. Іншая справа, што мы бачым, як у падобных краінах дастаткова хутка пераадольваюць гэтую спадчыну. Калі чалавека паставіць у людскія ўмовы, ён дастаткова хутка прывыкае да добрага жыцця, ён прывыкае, што яго не зневажаюць, прывыкае, што ягоныя правы бароняцца, прывыкае да шматлікіх рэчаў і выгодаў, якія дае дэмакратычнае грамадства. Такое жыццё, як у нас — гэта не ёсць норма. Вельмі важна яшчэ разумець, якія ў нас прыярытэты. Нам няма сэнсу арыентавацца на азіяцкія краіны і казаць: "Паглядзіце, як кепска жывуць людзі ў Туркменістане", бо гэта вельмі далёка ад нас. Гэта іншыя культуры, іншы свет. А трэба арыентавацца на еўрапейскія краіны, Еўропу, дзе Беларусь знаходзіцца.

**— Што вам не падабаецца ў вашай арганізацыі і што вы хацелі б змяніць?**

— Думаю, што мы недастаткова актыўныя. Не гледзячы на тое, што мы робім шмат і магчымасцяў для работы ў нас значна больш. Мы проста не выкарыстоўваем нават тыя магчымасці, якія ў нас ёсць.

**— Дзякуй за змястоўныя адказы.**

— Дзякуй, а я напрыканцы дадам, што ў Бярозе таксама працуе аддзяленне нашага Цэнтра. Калі вашыя чытачы сутыкаюцца з парушэннем сваіх правоў, хай звоняць па тэлефоне 8 (243) 2-53-02.

www.spring96.org

## АСАБІСТАЯ СПРАВА

**Алесь Бяляцкі. Нарадзіўся ў 1962 г. у Карэліі (Расія) у сям'і беларусаў, у 1984 г. скончыў Гомельскі ўніверсітэт (беларуская і руская філалогія), у 1989 г. — аспірантуру інстытута літаратуры беларускай Акадэміі Навук. Працаваў настаўнікам, навуковым супрацоўнікам, дырэктарам Літаратурнага Музея Максіма Багдановіча (Мінск). У 1991-95 гг. быў дэпутатам мінскага гарадскога савета.**

**Сябра БНФ з часу яго ўтварэння ў 1988 г., сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі.**

### ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ ПРАВААБАРОНЧЫ ЦЭНТР "ВЯСНА"

***"Вясна"*** — няўрадавая грамадская арганізацыя, створаная ў красавіку 1996 года падчас масавых акцыяў пратэсту дэмакратычнай апазіцыі ў Беларусі для дапамогі ахвярам палітычных рэпрэсій.

Асноўныя намаганні ***"Вясны"*** накіраваны на рэальную дапамогу асобам, якія пераследуюцца па палітычных пераканаННЯХ, на пошук матэрыяльных сродкаў для перадачаў у месцы зняволення, для арганізацыі адвакацкай дапамогі, маральнай і матэрыяльнай дапамогі сем'ям палітычных вязняў, на арганізацыю юрыдычных кансультацыяў. ***"Вясна"*** дапамагае студэнтам, выключаным з ВНУ за палітычную дзейнасць, працягваць навучанне за межамі Беларусі.

Грамадскія абаронцы ад ***"Вясны"*** ўдзельнічаюць у судовых працэсах над асобамі, асуджанымі за актыўную грамадскую і палітычную дзейнасць.

***"Вясна"*** рэгулярна выстаўляе праваабарончыя пікеты, удзельнічае ў арганізацыі мітынгаў і дэманстрацыяў, арганізаваных дэмакратычнымі арганізацыямі.

Сябры Праваабарончага Цэнтра ***"Вясна"*** бяруць удзел у міжнародных праваабарончых канферэнцыях і семінарах.

**Паласу падрыхтаваў Янка НОВІК.**

**г. Бяроза.**

 



# ЯК ЖЫВЕШ, ВЯЛІКІ ГАЛІК?

Уся вёска патанае ў зеляніне. У большасці сады і прысады. Тры вуліцы, як бы тры промні, разыходзяцца на поўдзень, захад і поўнач ад невялікай плошчы, што перад вясковым магазінам. Дабротныя хаты суседнічаюць з невялікімі старымі, з забітымі вокнамі. Тут ужо няма галікоўцаў: яны памерлі.

Праўда, некаторыя хаты з зямельнымі ўчасткамі выкарыстоўваюцца гарадскімі родзічамі пад дачы.

**У Вялікім Галіку на пачатку гэтага года было 76 жыхароў. У ліку іх 43 пенсіянеры, 23 працаздольныя чалавекі і 10 дзяцей. У вёсцы жыве два ўдзельнікі Вялікай Айчыннай вайны. За паўгодзе памерлі тры чалавекі, не нарадзілася ніводнага.**

Чым жа знешне адметны Вялікі Галік? Перш за ўсё магазінам. Гэта адзінае месца ў вёсцы, куды ходзяць і дзе сустракаюцца жыхары. Іншых падобных месцаў няма. Праўда, ёсць клуб, але ён закрыты. Рамантаваць яго няма сродкаў. Мелі намер тут дом сацыяльных паслуг размясціць. Хутка два гады абяцаюць. Няма лазні. Мыюцца і старыя, і малыя ў начоўках або балеях. Раней была і школа. Затое ў кожнай хаце электрычнасць і тэлевізар.

— Толькі і ўсёй радасці, што гэты тэлевізар, — сказаў мне адзінокі пенсіянер Іван Васільевіч Гардзейка. — А так зусім хата была б пустой. А пабачыш і паслухаеш, то ад сумных дум адарвешся.

У той дзень, калі я наведаў вёску, была пятніца, і магазін якраз быў адкрыты. Яго загадчыца, былая жыхарка Вялікага Галіка Валянціна Зуенчык, была на рабочым месцы, за прылаўкам, прымала вішні ад жыхароў.

— Чым гандлюем? — запытаўся я.

— А ўсім, што на прылаўках, — адказала Валянціна Васільеўна. — Усё выкладзена...

— Я, прызнаюся, без магазіна прапаў бы, — уступіў у размову пажылы мужчына. — Вось я жыву ўжо сам. Хазяйства няма, ужо сілы не тыя. Дак я кармлюся з магазіна. І не толькі я. Хай скажа Валя. Куплю хлеб, каўбасу, цукар. Бывае, і бутэлечку віна да свята...

Сапраўды, на прылаўках ляжаў свежы хлеб, тры гатункі каўбасы, агуркі, памідоры, цукеркі, пячэнне і, вядома, віно і гарэлка.

— Пра нашага заўмага скажу так, — пачала сваю размову стараста вёскі Любоў Міхайлаўна Бакавец. — Яна з нашых, вясковых. Тут нарадзілася і вырасла, тут аддалі яе замуж. Жыве ў Бусяжы, а працуе ў нас. Дрэннага нічога пра Валю не магу сказаць. Старацца. І хлеб ў магазіне заўсёды ёсць, і да хлеба. Здараецца, па просьбе пакупнікоў і ў нерабочыя дні адкрые магазін. Словам, без магазіна нам было б зусім дрэнна...

**У вёсцы жыве дзве параўнаўча маладыя сям'і. Апошняе вяселле было ў Вялікім Галіку чатыры гады таму — у 1998 годзе. Маладая сям'я жыве ў вёсцы Бусяж. Жыхары Вялікага Галіка атрымліваюць 130 газет і часопісаў, у тым ліку і "Газету для вас".**

Любоў Міхайлаўна, гаворачы пра магазін, нічога не перабольшвала, бо гэта адзіная сельская абслугоўваючая кропка, куды прыходзяць вяскоўцы. Больш няма куды ісці. Стараста ведае ўсе праблемы вяскоўцаў, ведае кожнага жыхара і ўсё пра іх жыццё і працу, бо да яе часта звяртаюцца людзі.

Дарэчы, сама Любоў Міхайлаўна ўжо на пенсіі, але яшчэ працуе загадчыцай жывёлагадоўчай фермы. Ужо 48 гадоў у жывёлагадоўлі. Зайздроснае пастаянства. Праўда, заробкі ў загадчыцы невялікія — усяго 40 тысяч рублёў у месяц. Але ж згадзілася яшчэ трохі папрацаваць. Муж таксама пенсіянер, інвалід І групы. Таму трэба і падрабляць, і сваю гаспадарку дагледзець. Дочкі Галіна і Валянціна са сваімі сем'ямі жывуць у Івацэвічах, але не цураюцца бацькоў, прыязджаюць, каб дапамагчы.

— Яшчэ зусім нядаўна ў вёсцы былі два статкі людскіх кароў, — расказвае Любоў Міхайлаўна. — А зараз толькі 24 цялушкі. І з кожным годам меншае. На жаль, вымірае вёска...

Яшчэ ў 70-х гадах Галік сапраўды быў вялікім. Успамінае жыхар вёскі Іван Міхайлавіч Бакавец:

— У тыя гады шмат працаздольных людзей было ў вёсцы. Толькі ў нашай брыгадзе на касьбу выходзіла не менш паўсотні касцоў. А як пачнуць косы на досвітку кляпаць, аж перазвон стаіць над сялом. А цяпер у нас амаль адны пенсіянеры засталіся...

У вёсцы толькі дзве сям'і параўнаўча маладыя — Зуенчыкаў і Ківатыцкіх. Астатнія — пажылога ўзросту.

Чым жа займаюцца жыхары Галіка? У большасці, нават і пенсіянеры, уласнай гаспадаркай. Бульбу саджаюць, нават зерневыя. Пенсіянеры і калгасу дапамагаюць, калі ёсць такая патрэба. Дзялкі буракоў бяруць, выходзяць лён падымаць. Праўда, гэтай вясной украінцы прыехалі ў калгас і ўсе буракі папалолі.

**У вёсцы ўсяго 70 хат. 29 з іх стаяць з забітымі вокнамі. Тры дні ў тыдзень працуе магазін. На мясцовай ферме (калгас "Бусяжскі") працуе 13 чалавек. Чатыры разы ў тыдзень (серада, пятніца, субота і нядзеля) ходзіць маршрутны аўтобус Івацэвічы — Вялікі Галік.**

Як зазначыла стараста Л. М. Бакавец, калгас на чале са сваім старшынёй А. А. Комарам не забывае галікоўцаў. І тэхніку выдзяляе для апрацоўкі сотак і сенакосы. Дапамагае, чым можа, у гэты складаны час.

Яшчэ пра адну жыхарку вёскі трэба абавязкова сказаць добрае слова. Гэта паштальён Зінаіда Аляксандраўна Куліна. Звыш двух дзесяткаў гадоў яна на гэтай працы. У цёплы час года паштарка, як тут кажуць, на веласіпедзе, зімой — пешшу ідзе ад хаты да хаты, несучы то газеты, то пісьмы вяскоўцам. Зінаіду Аляксандраўну ў Галіку падобраму яшчэ называюць і сацыяльным работнікам. Аддзяленні сувязі на вёсцы зараз часткова і гандлёвыя кропкі. Часта паштарка атрымлівае заказы ад жыхароў на розныя дробныя тавары і без усялякай аплаты дастаўляе іх сваім жыхарам. І за электрычнасць бярэ аплату, аказвае іншыя паслугі вяскоўцам. Хто б мог так зрабіць, акрамя Зінаіды Аляксандраўны? Адказаць на гэтае пытанне даволі цяжка.

Пазнаёміўся я ў Галіку з ветэранам вайны і працы Іванам Васільевічам Гардзейкам. Яму 78 гадоў. Але гэта не самы стары жыхар вёскі. Іх, самых старых, у Галіку двое. Гэта Рыгор Антонавіч і Кацярына Антонаўна Бакаўцы. Абодва 1910 года нараджэння.

І Гардзейка, і Бакаўцы не маглі толкам растлумачыць назву сваёй вёскі. Прыпомнілі толькі, што іх вёска мае даволі старажытныя карані. Раней яна дзялілася на дзве часткі. У адной жылі баяры, гэта значыць, багатыя людзі, у другой — сяляне, значыць, беднякі. Сяляне, напрыклад, не мелі права хадзіць у дамы баяраў. Умоўнае раздзяленне вёскі засталося да сённяшняга дня. Захавалася толькі назва "баяры" — гэта паўднёвая частка вёскі. Праўда, сёння сяляне жывуць у абодвах частках Галіка, і ўжо ніхто не забараняе хадзіць адзін да аднаго.

Чаму ж вёску назвалі Галіком? Сёння нават старажылы разводзяць рукамі. Што вялікі, то зразумела, бо непадалёк, ужо ў Слонімскім раёне, ёсць Малы Галік.

У народзе бытуе старажытная прымаўка: "Голь на выдумкі здатная". Голь — значыць голы, адсюль — галота, значыць, зусім бедныя людзі. А такія бедныя людзі, па ўсёй верагоднасці, жылі ў адной частцы вёскі. Адсюль, па ўсім відаць, і пайшла назва Галік. Гэтага ніхто пакуль што цвёрда не сцвярджае, але не ніхто і не абвяргае.

Другая версія такая. Галік у перакладзе на гутарковую мову азначае літаратурная слова дзяркач. Гэта па сваім значэнні той жа венік, але ўжо голы, без тых тонкіх пруткоў, якія выкарыстоўваюцца для падмятання. А раней у сялянскіх хатах дзеркачом шаравалі падлогу, каб была чысцейшай.

Як бачым, дзве версіі зводзяцца да аднаго: у вёсцы жылі бедныя людзі, як кажуць, усё тая ж голь гаротная.

Па словах старажылаў, наваколле Вялікага Галіка мае сваю гісторыю. Недалёка ад вёскі ёсць мясцовасць пад назвай Разніца. Тут адбылася нейкая вялікая бітва (разня). Нават захаваліся курганы, дзе пахавалі забітых.

А ля самай граніцы са Слонімскім раёнам існавала вёска Шалавічы. Даўно гэта было. Нейкая хвароба сюды ўнадзілася, і большасць жыхароў вымерла, астатніх вывезлі, а вёску спалілі. Пры Польшчы там быў хутар, знаходзілі косці пахаваных. А назва Шалавічы за той мясцовасцю захавалася і зараз.

Яшчэ пяць з паловай гадоў таму ў Галіку было 50 двароў і 80 жыхароў. Зараз толькі 41 двор. Вёска паціху дажывае свой век. Нягледзячы на гэта, водгукі аб Галіку яго жыхароў самыя добрыя.

— Я ўсё жыццё ў сваёй вёсцы, — гаворыць І. В. Гардзейка. — Адсюль пайшоў на фронт. Дайшоў да Берліна. І пасля вайны нікуды не паехаў, застаўся тут. Пагадаваў сваіх дзяцей. Тут пахаваны мае бацькі, жонка, сястра. І мне тут пайсці на вечны спачын. Цудоўнае месца гэтае — Галік, хоць і далекавата ад буйных населеных пунктаў, вялікіх дарог. Гэта мая маленькая радзіма і, па-мойму, гэтым усё сказана...

— Я нарадзілася і вырасла ў Галіку, — кажа зусім маладая жанчына Валянціна Зуенчык. — Зараз у сваёй вёсцы, праўда, не жыву. Тут толькі працую. Але мая вёска мне вельмі дарагая. Такой другой няма нідзе. Я тут адпачываю душой і сэрцам. Паверце, гэта не пустыя словы...

Шчырасць сказаных слоў не выклікае сумнення, як не выклікае сумнення ўсё, што сказана галікоўцамі пры сустрэчах з імі. У вёсцы сваё жыццё, свая адметнасць, свае радасці і няўдачы. Хай больш светлых дзён будзе ў галікоўцаў!

**Святаслаў КАЖАДУБ.**
**Фота аўтара.**
**Івацэвіцкі раён.**



Адзін з фрагментаў вёскі Вялікі Галік.



Стараста вёскі Л. М. Бакавец.



Ветэран вайны і працы І. В. Гардзейка.



Вясковы магазін. Сюды часта прыходзяць галікоўцы. За прылаўкам загадчыца магазіна Валянціна Зуенчык.



Так выглядае былы вясковы клуб.

 

# Надзеі і трывогі Яраслава Пархуты



**(Праця́г. Пачатак у № 23, 24, 25, 26, 27, 28).**

## V. ПАЛЕСКІ РАБІНЗОН

●

Усё пачынаецца ў аповесці "Адзінец" як быццам ціха і мірна. Іван Бушыла, жыхар вёскі Бастынь Лунінецкага раёна, вярнуўся з вайны яшчэ малады, жывы і здаровы. Шмат перажыў, шмат аддаў сіл у барацьбе з ворагам. Не паспеў яшчэ толкам агледзецца, як пагналі яго на лесапавал. Былі свае бліжэйшыя мары: хацеў пабудаваць сабе хату, ажаніцца, сям'ю завесці. Нават лес для будаўніцтва выдзелілі. Займеў сабе дзяўчыну, Тэклюсяй звалі. Аднак падзеі пачалі разгортвацца зусім па іншым сцэнарыі.

Аднойчы ў апошнюю нядзелю чэрвеня 1947 года Іван Бушыла пайшоў раніцай у магазін, каб купіць курыва. На вуліцы сустрэў энкеэвэдэшнікаў: участковага Махораца і другога — Хахлова з Лунінца. Запынілі былога салдата і пытаюцца:

— На якім фронце ваяваў, салдат?

— На Першым беларускім, — адказаў ён. — Пад камандаваннем Жукава!

А Махорац:

— Твой Жукаў бандыт! Яго ўжо за жабры ўзялі, белых мядзведзяў пасе.

— Не тое гаворыш, мілы мой чалавеча, — адказаў Іван. — Жукаў — талковы палкаводзец. Ганаруся, што быў ягоным салдатам.

— Бандыт жукаўскі! Таксама захацеў да белых мядзведзяў?!

Махорац выхапіў наган і да Бушылы. Іван захінуўся, улучыў момант і левую рукою перахапіў ягоную, што з наганам, а правую... Як вынік, Махорац адляцеў да плота.

●

— Страляй! — закрычаў Хахлоў. Але Махорац нешта марудзіў.

— А страляйце, — успыхнуў Іван, — маць вашуператак. Фашысты не забілі, то вы... Беззаконнікі! Анархію развялі. Тэрор у краіне насадзілі. Гэта вам адрыгнецца!

Іван павярнуўся і пайшоў у магазін. А ззаду чулася:

— Прыбяром! Так прыбяром, што і да свайго Жукава не даедзеш...

Іван напаследак агрызнуўся:

— Гора вам! Народ не запалохаеце!

З таго дня ў Івана Бушылы, як ён сам казаў, усё пакацілася цераз пень-калоду.

Але ж не думаў спярша былы салдат, што тая сутычка з энкеэвэдэшнікамі карэнным чынам паўплывае на яго далейшы лёс.

Аб той сутычцы Махорац і Хахлоў не забылі, і надвячоркам таго ж дня ўварваліся ў хату Бушылаў і адразу пачалі чапляцца да бацькі і маткі.

— Выгадавалі жукаўскага бандыта! Дзе жукаўскі бандыт?

Усё ў хаце перапаролі і перавярнулі, шукаючы Івана. У адзін з момантаў Іванаў бацька не вытрымаў:

— Што хвашысты...

Гэта яшчэ больш раззлавала энкеэвэдэшнікаў. Махорац наскочыў на бацьку і рукаяццю нагана выбіў яму апошні зуб. На гэтым вобыск закончыўся, і неспадзяваныя "госці" пайшлі.

●

Калі вечарам Іван вярнуўся дахаты, бацька ляжаў на лаве. Губы яго распухлі, ён толькі прашамкаў сыну:

— Уцякай! Канец будзе!

Маці ўсплеснула рукамі, заплакала:

— З-за цябе ўсіх нас у Сібіру адправяць.

Сам Іван і бацькі помнілі, як з іх вёскі ў 30-я і пасляваенныя гады вывозілі людзей. Напрыклад, Міцю Куксача, які на сем душ сям'і меў сем гектараў зямлі, не пашкадавалі. А Жэньку Сучка з жонкаю і двума дзеткамі вывезлі за тое, што падчас вайны (а служыў ён у польскім войску) папаў у Англію, а, калі вярнуўся дамоў, яго палічылі шпіёнам.

Таму было чаго баяцца Івану, хаця ён быў і не з баязлівага дзесятка. Але тут, у гэтай абстаноўцы, Бушыла дакараў сябе за лішнюю фанабэрыстасць. Лепш змоўчаў бы, мо праняслo б. Так думаў Іван. Аднак было ўжо позна. І трэба на пэўны час, як сказаў бацька, схавацца...



**Павел Паўлавіч Гілевіч, швагер Івана Бушылы.**

Такі інтрыгуючы пачатак дакументальнай аповесці "Адзінец" Яраслава Пархуты. Чытач, напэўна, зацікавіцца далейшымі падзеямі ў творы. Вядома, лепш за ўсё прачытаць гэтую аповесць і падрабязна даведацца аб усім. Калі ж я пачаў ужо размову пра гэты твор, то хочацца выказаць і свае думкі і ў нейкай меры заахвоціць абыякавых людзей да чытання, да разумення таго, што напісана аўтарам ад імя самога героя аповесці Івана Бушылы. Пархута не раз з ім сустракаўся, гутарыў, стараючыся, каб расказчык адкрыў сваю душу, прыпамінаючы ўсе падрабязнасці шматгадовага ляснога жыцця.

●

Наколькі гэта яму ўдалося, вядома, судзіць самому чытачу. Аднак, на мой погляд, Яраслаў Пархута не толькі змог перадаць душэўныя перажыванні свайго героя, але і тую атмасферу, якая панавала і ў гады сталінскага рэжыму, і ў гады хрушчоўска-брэжнеўскага камуністычнага кіравання.

Аўтар уключыў у сваю кнігу ўспаміны жыхароў Бастыні, частку дакументаў аб дзейнасці мясцовага калгаса і ўладаў, і тым самым расшырыў кола падзей, што адбываліся на вёсцы і ў раёне.

А тым часам праследаванне Івана Бушылы працягвалася. Прайшоўшы вайну і зведаўшы неймаверныя цяжкасці ў крывапралітнай вайне, ва ўмовах мірнага жыцця былы яфрэйтар як бы стаў ворагам той улады, за якую ваяваў. Дамоў прывёз некалькі баявых узнагарод. Так, з Одэра — "Медаль за баявыя заслугі", за абарону, а потым за прарыў на Вісле — медаль "За адвагу"... А зараз не ведаў, што і рабіць, куды падацца. Паднімеш рукі перад энкэвэдэшнікамі — запруць у сталінскі Гулаг не на адзін дзесятак гадоў. Усё ў іх руках тады было.

Яшчэ не раз тыя энкэвэдэшнікі ўвальваліся ў хату Бушылы і бралі за грудкі бацьку, дапытваючыся, дзе жукаўскі бандыт.

Бацька ўсё раіў сыну:

— Сысці трэба куды.

Маці давала Івану харчоў, і той ішоў у лес.

●

Дзе ж начаваў Іван Бушыла? Сам яшчэ толкам не ведаў, куды падацца. Мо ў каго на хутары перабыць? Аднак там рызыкоўна. Ля Белага ці Чорнага возера доўга не протрымаешся, там рыбакі часта бываюць і могуць заўважыць.

Словам, пастаяннага месца жыхарства не вызначыў. Але ж з сабой ні тапорыка, ні пілкі, ні чыгунка... Вырашыў заскочыць да швагра Паўла. Калі тое-сёе прыдбаў у яго, то Павел на развітанне напомніў:

— А ў сяло не прыходзь. Ужо і мяне пачалі цягаць, і Надзю...

Жыў Іван на балоце, на невялікім грудку, дзе ціша было. Днём агню не разводзіў, толькі ноччу і то невялікае цяпельца, каб што зварыць, абагрэцца і абсушыцца.

"Першы тыдзень майго адзіноцтва прайшоў без прыгод, — успамінаў Іван Бушыла. — Удзень звычайна вартаваў самога сябе. Адыходзіў на ўскрай грудка, у лазавінне, гадзінамі стаяў там, карміў камароў, — прыслухоўваўся, што дзеецца навокал. На змярканні вяртаўся..."

Пагана было на душы. Успаміналася родная хата, маці, бацька, браты, сястра, словам, уся радня. Часам не выходзіла з галавы яго нарачоная — Тэклечка.

Як прыпамінае Іван, дзесьці на дзесяты дзень ляснога жыцця здарылася бяда. Калі набіраў ваду ў струзе, адступіўся і набраў поўныя халявы. Вырашыў носкія салдацкія боты пасушыць над цяпельцам, надзеўшы іх на патырчакі. А сам ляжаў на шынялі ля агню і заснуў. Прачнуўся ад смуроду — згарэлі салдацкія боты. Так сярод лесу Іван застаўся яшчэ і без абутку.

●

Чым далей, тым усё больш ускладнялася лясное жыццё Івана Бушылы. Успомніў, як да вайны разам з бацькам дралі лыка і плялі лапці. Надраў лыка і Іван, скруціў некалькі вярчоў, сплёў дзве пары ладных пасталоў (іх яшчэ называлі лапцямі). Павузіў анучы, а з палосачак корту звіў аборы і забарсаў у лапці. Калі абуў, атрымалася непрывычна лёгка.

Трывожыла і другое. Выйшлі харчы. Пайшоў шукаць на полі бульбу. Не вырываў цэлыя карчы, а, так сказаць, шчупаў, каб не так было прыкметна. Памагаў харчам і Павел.

Але наступала восень, затым зіма, трэба чымсьці запасацца, іначай — канец. Пайшоў на хутар да дзеда Барыса. Дапамог тым-сім і яшчэ наказ даў:

— Сюды носа не паказвай. Ужо два разы прыходзілі да мяне. Дапытваліся: дзе Палкоўнік?

Дарэчы, колькі слоў пра мянушку Палкоўнік. Пачалося ўсё з дзеда Івана Бушылы, па бацьку Нікіфар, які ў памешчыка тутэйшага пры ферме служыў. Дзед гэты меў здольнасці і часта ратаваў ад розных хвароб то памешчыцкую, то сялянскую жывёлу. Аднойчы дзеда запыніў пан і спытаў: "Ну, як дзялы, каровін палкоўнік?" Гэтая мянушка перадалася і бацькам Івана. Бушылаў у вёсцы многа, таму па мянушках адразу распазнавалі, хто гэта. Івана Бушылу, што хаваўся ў лесе, таксама называлі Палкоўнікам.

●

Першы год ляснога жыцця для Івана Бушылы быў, бадай, самым цяжкім. Зімаваць давялося ў невялікім зімовым будане, зробленым самім гаспадаром. Залазячы нанач у сваё логава, Іван абавязкова ўкручваўся ў плёнку. Так было цяплей. Мінула вясна і лета, а ў Палкоўніка ўсё заставалася па-ранейшаму. Ён сядзеў на сваім грудку, нібы звер, і не ведаў, што ж будзе заўтра.

А тым часам у Бастыні стварылі калгас. Вось выпіска з пратакола № 6 агульнага сходу калгаснікаў калгаса "Шлях Леніна" ад 2 жніўня 1947 года: "Многія з калгаснікаў з дня арганізацыі калгаса не маюць ніводнага працадня. Член праўлення Арабей Апанас Лукіч... стаў на шлях калгаснага разлажэння, праводзячы антыкалгасную агітацыю сярод калгаснікаў, што ў калгасе не так робіцца, як трэба, што першы абмалот зерня не трэба здаваць дзяржаве, а размеркаваць сярод членаў калгаса, і што з калгаса нічога не будзе..."

Аднойчы Іван сустрэў у лесе свайго швагра Паўла, які расказаў аб навінах у вёсцы. Надзю, Іванаву сястру, у раён выклікалі і дапытваліся, дзе Палкоўнік. Не выдала. А ў вёсцы ўсіх падаткамі душаць, усіх падкулачнікамі лічаць. У бацькі карову забралі, кабыліцу, цялушку, калёсы, зямлю абрэзалі, толькі цялятка пакінулі.

Яшчэ адна навіна неяк прыгнятальна падзейнічала на Івана, калі Павел сказаў, што нібыта Тэкля (Іванава нарачоная) замуж збіраецца.

**Святаслаў КАЖАДУБ.**
**Фота аўтара.**
**г. Івацэвічы.**
**(Працяг будзе).**



**Месца ў вёсцы Бастынь, дзе стаяла хата бацькоў Івана Бушылы.**



**Лес у Лунінецкім раёне, дзе хаваўся Іван Бушыла.**

# "КАСКАД" — АЛЬТЕРНАТИВА УЛИЦЕ

**В начале 90-х перестала существовать некогда могучая, непобедимая Советская Армия. С объявлением независимости вновь созданные государства стали организовывать собственные вооружённые силы. По их примеру поступила и наша республика. Однако многие кадровые офицеры отказались давать присягу, мотивируя тем, что уже однажды присягнули. А офицеру, как известно, негоже менять взгляды. Часть из них уехали в Россию, другие — подали в отставку. Пустели обжитые места, переходя в стадию одичалости и разрухи. В некоторых ещё теплится жизнь, хотя и оттуда, при первой же возможности, уезжают. Ужасно видеть развал там, где прежде царил образцовый порядок.**



Юные "каскадовцы" на привале.

В Пружанском районе есть деревня Новые Засимовичи, некоторые и сейчас её называют военным городком. Когда-то она и на самом деле была таковым: бетонный забор окружает территорию, на которой ровными рядами стоят однотипные двух-, пятиэтажные дома. Но и его постигла та же судьба — очень много пустых квартир, которые потихоньку заселяли приезжие. Но вслед за этим пришла ещё одна беда — безработица. Когда-то в Новых Засимовичах была налажена своя закрытая инфраструктура, о которой теперь напоминают закрытые магазины. Жители городка в поисках работы. Ежедневное отсутствие взрослого населения не очень хорошо повлияло на подростков. Целый день предоставленные самим себе, они занимались тем, чем хотели.

К 1995 году за городком среди участковых и инспекторов детской комнаты милиции закрепилась дурная слава. Наркотики, спиртное, кражи, хулиганство... Надо было срочно придумывать, чем занять подростков в свободное время.

В 97-м году по инициативе Виталия Матвиенко, специалиста отдела по делам молодёжи, в Н. Засимовичах на базе вертолётной базы был создан военно-патриотический клуб "Каскад".

— Сначала клуб существовал без названия, — рассказывает его руководитель А. Г. Шуляк. — Затем, по ассоциации со ступенькчатым воспитанием, — "Каскад". От худшего к лучшему.

Были разработаны устав, программа, права и обязанности. Вступали в клуб все желающие от 14 лет, по заявлению и разрешению родителей. Сразу даётся трёхмесячный испытательный срок, в течении которого за любой проступок можно избавится от кандидатства. К слову, за пять лет существования клуба такое случилось только раз.

Через три года "Каскад" переехал в Порослянскую школу и к его названию добавилось "спортивный". Сейчас в ВСПК "Каскад" входят 46 подростков, среди которых множество девушек. Приобрели уже "каскадовцы" себе известность не только в районе, но и в области. С 1999 по 2001 год — призовые места в районной игре "Зарница", в 2000 году — победители областных соревнований. Члены клуба "Каскад" считаются лучшими стрелками, сказывается и хорошо налаженная подготовка: в этом году Ольга Хомчук после месяца занятий "выстрелила" из пяти попыток 47 баллов, чем принесла команде III место в областных соревнованиях по стрельбе. Сейчас ребята проходят интенсивное обучение по всем игровым видам спорта, лёгкой атлетике. Большое внимание уделяется и развитию трудолюбия у детей.

— Без вопросов "каскадовцы" берутся за любую работу, — видно, что Александр Геннадьевич гордится своими воспитанниками. — Будьто уборка территории, благоустройство городка или шефская помощь ветеранам Великой Отечественной войны. В этом году мы участвовали и в строительстве памятника воинам-интернационалистам.

Надо отметить, что за лучшее в Брестской области военно-патриотическое воспитание молодёжи А. Г. Шуляк был отмечен грамотой.

Ежегодно выпускники клуба пробуют поступать в военную Академию Министерства Обороны. Сейчас там учатся более 20 "каскадовцев".

Два года назад у ребят возникла идея создать в школе музей войны. Кстати, такого ещё не было в районе. Много времени ушло на сбор материала, опрос ветеранов. Теперь же экспозицию практически можно считать законченной. Разместилась она на шести стендах, которые в хронологическом порядке рассказывают об основных событиях Великой Отечественной войны, от начала и до взятия Берлина. Отдельный стенд — партизанское движение в нашем районе, который сделан в виде землянки.

— Со своей основной задачей — отвлечь детей от пагубного влияния улицы — клуб справляется на "отлично", — считает тренер и учитель А. Г. Шуляк. — Самое главное, что происходит это добровольно и осознанно.

**Кристина КРУГЛЕВИЧ.**
**Фото из архива.**
**г. Пружаны.**

# То ли кафе, то ли павильон

**Если раньше жители Телехан на вопрос "Куда пойти отдохнуть?" называли пару-тройку мест времяпровождения, то сегодня в их ответе можно услышать: "В летнее кафе".**

Идея открыть заведение такого типа зародилась у директора Телеханского филиала Ивацевичского райпо Антонины Зинкевич более трёх лет назад. И воплотить её в реальность удалось только в этом году в конце июня. Пожалуй, ушло бы на это ещё больше времени, если бы не было помощи инженера-технолога Жанны Ковалевич, мастера строительной бригады Александра Федковича и других работников. Причём, строилось кафе полностью за счёт филиала. И место для него выбрали удачно: в центре посёлка. Сейчас каждые выходные жители, когда выходят на рынок, по дороге туда и обратно могут посидеть в тенёчке, отдохнуть, чего-нибудь перекусить, выпить. Сюда и с детишками прийти можно (а раньше не было куда податься). В кафе приятно зайти уже потому, что оно привлекает своей цветовой гаммой: крыша, стены, даже столики со стульями подобраны под цвет зелени различных оттенков. Со вкусом обставлено закрытое помещение!

То, что в Телеханах появилось нечто новенькое, сразу привлекло публику. И большая часть завсегдатаев других питейных заведений "перекинулась" на открытую площадку кафе, главное преимущество которой — свежий воздух в неограниченном количестве, чего ой как не хватает летом в душных помещениях. Однако у этого "козыря" есть некоторые "сюрпризы" в виде кусающих насекомых и непогода. Кстати, о непогоде. Строители, видимо, так старались быстрее сдать объект — кафе "выросло" буквально за полтора месяца, — что не учли сток дождевой воды с площадки, где стоят столики. И каждый раз после дождя там разливается огромная лужа.

Планировалось посадить бархатцы возле кафе, чтобы эстетически было привлекательнее. Пустую затею оставили: всё равно "культурные" люди вытоптали бы. Витала идея и назвать кафе, и вывеску красивую повесить, но пока это заведение для телеханцев остаётся то ли кафе, то ли площадкой, то ли павильоном. Обещали установить дорожный знак, запрещающий въезд на территорию, прилегающую к кафе. В интересах отдыхающих, между прочим, чтобы в вечернее время могли потанцевать под музыку. Но до сих пор машины подъезжают прямо под стены и железное ограждение, заграждая тем самым проход, не то что место для танцев. А ещё порадовать посетителей кафе хотели пивком холодненьким со специальной пивной установки. Но чего нет — того нет. Уменьшился ассортимент напитков, продуктов и т. д. А ведь после открытия глаза разбегались от обилия и разнообразия предлагаемого.

Вот маленький пример, как в наше время не всё делается так, как хочется. И "крайних" в этом деле нет. Но не от одной же Антонины Зинкевич абсолютно всё зависит!

**Юлия СТЭМП.**
**г. п. Телеханы.**

# Сем'і распадаюцца

**Аб гэтым сведчыць усёведная статыстыка. Летась, напрыклад, у Брэсцкай вобласці было зарэгістравана 10172 шлюбы. Тады ж было разгледжана ў судах 4520 спраў аб скасаванні шлюбу. Гэта 27 працэнтаў ад агульнай колькасці разгледжаных грамадзянскіх спраў.**

Аналіз паказвае, што асноўнай прычынай скасавання шлюбаў з'яўляецца злоўжыванне спіртнымі напоямі — 37 працэнтаў ад агульнай колькасці спраў. Далей ідзе несумяшчальнасць характараў (22 працэнты) і адсутнасць любві і павагі (21 працэнт).

Больш за ўсё скасавана шлюбаў у Баранавічах, Брэсце і Пінску.

У Драгічынскім раёне, напрыклад, распаўся кожны чацвёрты заключаны шлюб, а ў Івацэвічах — амаль кожны трэці.

**Сяргей СЛАВІНСКІ.**
**г. Івацэвічы.**

# "Быценская мадонна"

**На днях у перадачы "Наши новости" (канал АНТ) прайшоў сюжэт, які расказваў пра тое, як у Быценскай праваслаўнай царкве была "апазнана" каштоўная ікона.**

Як паведаміла "Газеце для вас" адна з галоўных герояў сюжэта настаўніца Быценскай СШ Ніна Русак, яна ўжо даўно адсочвала сітуацыю са стратай іконы. Ніна Іванаўна звярнула ўвагу на тое, што пасля рэстаўрацыі іконы ў 1989 годзе, яе нідзе не выстаўлялі.

Цяпер самую каштоўную ікону вернікі могуць рэгулярна бачыць.

**Аляксандр ГОРБАЧ.**
**г. Івацэвічы.**

# Рэклама, віншаванні

## Сердечно поздравляем!

*Дорогую, любимую доченьку, внученьку и сестричку Оксану КОВАЛЬЧУК из г. Ивацевичи от всей души поздравляем с днем рождения. Желаем успехов в учебе, счастья во всем.*

*Тебе сегодня 10,*
*Такая дата,*
*Что лучше не найти.*
*Это, впрочем,*
*еще маловато.*
*Больше будет впереди.*
*Желаем крепкого здоровья*
*И счастья полного навек,*
*Всего хорошего, земного,*
*Всего, чем счастлив человек.*

*С любовью — мама, папа, брат, бабушки и дедушки.*



*Дорогую и любимую доченьку, жену, мамочку и сестричку Татьяну Алексеевну КОШЕЛЬ из г. Ивацевичи поздравляем с юбилеем. Желаем крепкого здоровья, счастья, всегда прекрасного настроения, любви и долгих лет жизни.*

*В предании старом говорится:*
*Когда родится человек,*
*Звезда на небе загорится,*
*Чтобы светить ему навек.*
*Так пусть звезда тебе сияет*
*По крайней мере лет до ста,*
*Пусть счастье дом твой*
*окружает,*
*Пусть радость будет в нем*
*всегда.*

*С уважением и любовью — мама, муж, сын Виталий, доченька Полинка, брат Дмитрий и его семья.*



*Поздравляю с Днем рождения Валентина Юрьевича ДУБЕШКО из д. Бытень Ивацевичского р-на. Желаю крепкого здоровья, хорошего настроения, счастья, пусть сбудутся твои заветные мечты. Всего тебе самого наилучшего.*

*Таня.*



*Дорогую, любимую жену и мамочку Наталью Григорьевну ЛИПОВКА из г. Коссово Ивацевичского р-на поздравляем с 25-летием. Желаем крепкого сибирского здоровья, кавказского долголетия, голубого неба над головой, успехов везде и во всем, а главное — всегда любить и быть любимой.*

*С любовью — муж и дети Владик и Алеська.*



## ПРОДАЮТСЯ

### РАЗНОЕ

☞ Компьютер "Pentium-2 333Mz"; HDD-3.2 GB; FDD-3,5;CD-ROM LG-52x; монитор SVGA-"14 (800*600*75Гц); ОЗУ-64MB; звуковая карта Vortex-1; видео 3D 16MB; модем; клавиатура, мышь. Програмное обеспечение. Цена 340 у. е. Принтер струйный EPSON STYLUS COLOR — 480 на гарантии. Цена 60 у. е. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-50-21 (вечером).

☞ Новые ульи (дадан). Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-37-10.

☞ Пчелы с ульями. Тел в г. Ивацевичи (8-245) 2-37-10.

☞ 2 сечкарни. Тел. в г. Береза (8-243) 5-39-64.

☞ Холодильник-морозильник, новый, гарантия 3 года, цветная модель. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-12-68 (после 18.00).

☞ Пылесос "Panasonic", телевизор "Panasonic", всё новое, гарантия. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-81-23.

☞ Музыкальный центр "Panasonic", видеомагнитофон "Panasonic", всё новое, гарантия. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-81-23.

☞ Стационарный ларёк 3,50x2,85, сделанный евро-стандартом, с документами на него. Тел. в Ивацевичском р-не (8-245) 54-2-14.

☞ Коляска, б/у, комбинированная, состояние хорошее, 50 у. е.. Тел. в Ивацевичском р-не (8-245) 45-3-26.

☞ Новый кормозапарник, цена 100 тысяч руб. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-47-16.

☞ Молодая корова. Тел. в Ивацевичском р-не (8-245) 32-9-76.

☞ Летна транспортерная, тол. 10 мм, ширина 500 мм. Цена договорная. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-74-68 (звонить после 18.00).

☞ Все для рукоделия: нитки, журналы, канва, инструмент и другое. Тел. в г. Береза (8-243) 2-88-23.

☞ Швейная машинка "Pfaff",, (441-R-755/03) с приводом на ролик. Тел. в г. Белоозерск (8-243) 29-5-78.

☞ Строительные и отделочные материалы, пр-во РП, дешево. Тел. в г. Береза (8-243) 52-2-12.

☞ Кухонный стол-тумба из набора "Журавинка", б/у. Тел. в г. Береза (8-243) 4-76-95.

☞ Стиральная машина "Волна", с центрифугой, шкаф книжный, б/у. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-85-05 (после 18.00).

☞ 4 свадебных ручника, ручная вышивка. Цена 1 шт. — 10 тыс. руб. Тел. в г. Береза (8-243) 4-21-52.

☞ Швеллер №20, дл. 1,7 (1 шт.); уголок 10x13, дл. 3 м (3 шт.); 14x14, дл. 2 м. (1 шт.); наушники "ТДС-5М". Тел. в г. Береза (8-243) 4-62-70 (после 21.00).

☞ Подшипники 153, 612, цена договорная. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-74-68 (после 18.00).

☞ Картофелекопалка тракторная. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-61-41 (с 21.00 до 23.00).

☞ Новая стиральная машина "Indesit", возможность загружбелья горизонтальная и вертикальная. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-81-34.

☞ Коляска детская, закрытая. импортная, б/у. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-83-22 (вечером).

☞ Холодильник б/у "Минск-215" — 100 у. е., пылесос, б/у, 2000 г. в., импортный — 50 у. е. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-59-75.

☞ Новый мягкий уголок. Тел. в Ивацевичском р-не 8-029-657-09-18.

☞ Щенок (девочка) американский бульдог, родословная, клеймо, 2,5 месяца, привита. окрас белый с тигровым, дорого. Тел. в г. Пружаны (8-232) 71-0-04.

☞ Корова. Тел. в Ивацевичском р-не (8-245) 68-2-87.

☞ Блоки газосиликатные, 6 м³. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-14-37.

☞ Новый мягкий уголок, цена договорная. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-88-58.

☞ Коляска, б/у, комбинированная, тройка, синяя, ручка перекидная, сост. хор., 60 у. е. Тел. в Ивацевичскои р-не (8-245) 45-3-09.

### НЕДВИЖИМОСТЬ

☞ 2-комнатная квартира в д. Малеч Березовского р-на, имеется большой подвал, рядом огород с небольшим садом, сарай, телефон, 2-й этаж. Обращаться по адресу: Березовский р-н, д. Малеч, ул. Советская, д. 49, кв. 3.

☞ Дом в д. Нивы Березовского р-на, участок 0,32 га, имеется новый сарай, цена договорная. Тел. в г. Береза (8-243) 2-23-83.

☞ Коробка 2-этажного панельного дома, крытая шифером, без отделочных работ и столярки, 7 комнат, в г. Ивацевичи, по ул. Мира, 35. Под домом 2 гаража и подвалы. Имеется возможность подключения (свет, вода, газ, телефон). Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-70-37 (утром или после 21.00).

☞ 4-комнатная квартира в г. Ивацевичи, общ. пл. 83 м², жилая 56,7 м². Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-70-25.

☞ Капитальный гараж в районе магазина "Будаўнік". Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-84-47.

☞ Дом в д. Озерцо, Ивацевичского р-на, имеется кирпичный гараж, кирпичная летняя кухня, 59 соток земли, сад, хозпостройки, колодец. Цена умеренная. Тел. в ивацевичском р-не (8-245) 47-3-78.

☞ Дом в д. Сторожовщина, Ивацевитчского р-на, цена договорная. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-62-04.

☞ Кирпичный дом в д. Доманово Ивацевичского р-на, есть летняя кухня, хозпостройки, сад, огород, рядом ж/д вокзал. Тел. в г. Бресте (8-22) 46-23-11 (вечером), 43-18-11.

### АВТО-МОТО, ЗАПЧАСТИ

☞ "Ауди-80",1982 г. в., 1,8 бензин, белая, в хорошем состоянии, резина R-14, люк. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-13-05.

☞ "Форд-Эскорт", 1986 г. в., 1,6 дизель, цвет красный, состояние хорошее, 1300 у. е.. торг. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-64-33.

☞ "Фольксваген-Пассат", 1983 г. в., цвет белый, новая АКБ, гидроусилитель руля. Тел. в Ивацевичском р-не (8-245) 68-2-87.

☞ "Опель-Кадетт", 1981 г. в., объем двигателя 1,3, в нормальном состоянии, на ходу, недорого. Тел. в г. Береза (8-243) 4-79-32.

☞ "Ауди-80", 1986 г. в., переходная, КПП-5ст., цвет — серый металлик. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 5-28-26.

☞ "Москвич-412", 1990 г. в., газ-бензин, пробег 61 тыс. км., в хор. сост. Тел. в Пружанском р-не (8-232) 37-1-88.

☞ "Ниссан-Санни", 1991—92 г. в. , 1,4Б, отл. сост. — 1999 у. е. Тел. в г. Береза (8-243) 4-20-43, 2-52-75.

☞ "Рено-19", 1989 г. в., 1,4 карб., синий мет., 109 т. км., э/люк, фаркоп, спойлер, 1750 у. е. Тел. в г. Береза (8-243) 2-25-14.

☞ Новые з/ч к "Запорожцу-968М": тарсион, вкладыши, поршневые кольца, стекла фар, подшипники колёс, тормозные шланги и т. д. Тел. в г. Белоозерск (8-243) 28-0-70.

☞ Прицеп "МАЗ-8926", 1990 г. в., хорошее состояние, нормальная резина, новый тент, 1100 у. е. Тел. в г. Береза (8-243) 2-00-84.

☞ "Двигатель к "МТЗ-50", цена договорная, Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-51-62.

☞ Прицеп "Е-5". Тел. в Ивацевичском р-не (8-243) 45-3-33 (в рабочее время).

☞ "ВАЗ-03", 1500, 1977 г. в., зеленый, без проблем, 750 у. е. Тел. в г. Береза (8-243) 27-9-95.

☞ Трактор "МТЗ-80", 1989 г. в., с прицепом, в хорошем состоянии. Тел. в Ивацевичском р-не (8-245) 3-94-64.

☞ "Опель-Кадетт", 1,6Д, 1984 г. в., + такой же на з/ч, оба универсалы, цена 650 у. е., торг уместен. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-87-67, 45-2-78 (вечером).

☞ "Гольф-2", 1985—1986 г. в., цвет темно-синий, 3-дверный, 1,6Д, торг уместен, цена 1650 у. е. Тел. в г. Пружаны (8-232) 7-13-58.

☞ "ВАЗ-21096", 1990 г. в., объем 1300 см³. Тел. в Ивацевичском р-не (8-245) 52-7-06.

☞ Мотоцикл "Днепр", 1983 г. в., хорошее состояние, есть запчасти. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-84-37.

☞ Резина 260x508/9.00-20, 280x508/10.00-20, недорого. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-50-86.

☞ Кузов "ЕРАЗ-672". Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-46-57 (после 18.00).

☞ Прицеп-дача, можно под торговую точку. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-32-11.

☞ "Гольф-2", ноябрь 1991 г. в., 1,3 см³, инжектор, 5-ст КПП, цвет тёмно-синий, 3-дверный, находится в Польше, 1300 у. е. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-59-75.

☞ Мотоцикл "Минск", 1992 г. в., пробег 6 тыс. км.; грузовая машина "ГАЗ-52". Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-12-53.

☞ Срочно! "Гольф-1", 1978 г. в., 1,1 без АКБ, 150 у. е. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-47-26 (после 18.00).

☞ "Фольксваген-Джетта", 1984 г. в., 1,6Б, свежая, 1500 у. е.; для "ВАЗ", "Москвич" б/у запчасти. Тел. в г. Береза (8-243) 2-52-75.

☞ "Опель-Астра", 1991—92 г. в., 1,4Б, 5-дверный, г/у, хэтчбек. Тел. 8-0296-52-83-16.

☞ Прицеп к л/а. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-25-24 (в рабочее время).

☞ Мотоцикл "Минск" 12V, в хорошем состоянии. Тел. в Ивацевичском р-не (8-245) 68-2-24 (в любое время).

☞ "ЗИЛ-130", дизель, в хорошем состоянии, КПП к "ЗИЛ-130" ускоренную. Тел. в Ивацевичском р-не (8-245) 39-4-64.

☞ Кузов новый к автомобилю "ВАЗ-21-01". Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-24-87 (после 18.00).

☞ Передние сидения для иномарки. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-87-01.

☞ Грибы "Весёлка". Тел. в г. Белоозерск (8-243) 4-04-55, 59-0-95.

☞ Агрегат окрасочный высокого давления "Вагнер-7000". Тел. 8-029-633-57-30, 8-0232-55-57-70.

☞ Шины, камеры, к грузовым а/м, тракторам, з/ч к "МТЗ", "К-700", "Т-150", "ГАЗ", "ЗИЛ", "Урал". Тел. (8-0172) 86-86-51, 8-0296-22-50-60.

## КУПЛЮ

☞ Свинью живым весом. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-62-86, 2-68-34 (Сергей).

## МЕНЯЮ

☞ 3-комнатную приватизированную квартиру в д. Яглевичи Ивацевичского р-на, в коттедже, общ. пл. 78 м², жил. 41м², имеется подвал, 1/2 часть сарая, 0,10 га зем. участка, на 2-комнатную в г. Ивацевичи. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-14-17.

☞ 1-комнатную приватизированную квартиру, в г. Береза на 2-,3-комнатную. Тел. в г. Береза (8-243) 4-50-28.

☞ 2-комнатную квартиру в г. Ивацевичи на 1-комнатную с доплатой. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-65-37.

☞ Шкурки выделанные из нутрии, цвет стандартный, на шкурки черного цвета, варианты обмена при осмотре. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-46-50.

☞ 1-комнатную квартиру (малосемейка — 30м²), по ул. 60 лет Октября в г. Ивацевичи на 2-комнатную с доплатой. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-60-30.

## СДАЮ

☞ Помещение в аренду (офис, склад). Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-68-02.

## СНИМУ

☞ Срочно! Квартиру. Порядок и своевременную оплату гарантирую. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-83-51.

☞ Квартиру или дом, порядок и своевременную оплату гарантирую. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-51-23 (после 20.00).

☞ Молодая семья из 3-х человек снимет квартиру. Своевременную оплату и порядок гарантируем. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-15-49.

☞ Семья из 3-х человек снимет 1-комнатную квартиру в г. Ивацевичи, порядок и оплату гарантируем. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-37-19.

☞ Срочно! Квартиру. Порядок и своевременную оплату гарантирую. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-51-23 (после 20.00).

## УСЛУГИ

☞ Пригоню машину под заказ из Германии. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-59-75.

